 

Пачатак на стар. 1

# Актыўная моладзь

— А як у вас складваецца супрацоўніцтва гуртка БГКТ з грамадскай бібліятэкай? — пытаю.

— Я — абсальвентка Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і беларуская літаратура не толькі блізкая для мяне, але я яе проста люблю. Хачу, каб беларуская кніга траплялa ў рукі кожнага чытача. Дзеля гэтага арганізую вечарыны, агляды беларускай кнігі. Пасля іх творы беларускіх пісьменнікаў лягчэй знаходзяць чытача. У бібліятэку ка мне, сакратару гуртка БГКТ, часценька заглядаюць нашыя гурткоўцы. І пры нагодзе я ім заўсёды прапаную што-небудзь цэннае і цікавае з беларускай літаратуры. І хоць выбар кніг на беларускай мове ў нас невялікі, але чытачоў прыбывае. Найбольшай папулярнасцю карыстаецца трылогія Я. Коласа «На ростанях» і дзіцячая літаратура.



— Неўзабаве пачнецца новы культурна-асветны сезон. Ці ваш гурток падумаў ужо што-небудзь?

— Год таму ў нас дзейнічаў драматычны калектыў, і мы паставілі «Пінскую шляхту» В. Дуніна-Марцінкевіча. У мінулую зіму збіраліся паставіць «Ветэрынар паняволі» В. Ардава. Раздзялілі ролі, але нашыя «акторы» былі вельмі ж упросныя, і п'есу паставіць не ўдалося. У наступаючым годзе зробім усё магчымае, каб такое не паўтарылася, і драматычны гурток мусіць што-небудзь паставіць. У нас жа такая прыгожая традыцыя ў драматычнай дзейнасці. Калісьці штогод ставілі і то добрыя п'есы. Хочам таксама бліжэй супрацоўнічаць з моладдзю з суседняй вёскі Крывая. Супольна будзе лягчэй разгарнуць культурную дзейнасць.

— А чым мог бы вам памагчы ў гэтым гайнаўскі аддзел і Галоўнае праўленне БГКТ?

— Перад усім нам патрэбна дапамога інструктара па мастацкай самадзейнасці. Каб хоць раз у месяц, здаецца, заглянуў да нас чалавек, які падвучыў бы ды параіў нашым «акторам» што і як рабіць — гэта была б вялікая справа. Ну і каб лягчэй было дзе пазычыць тэатральныя і беларускія народныя касцюмы — гэта таксама вельмі дапамагло б нам. Запрашаем да нас кінаперасоўку Таварыства з савецкімі фільмамі. Вельмі ж папулярныя ў нас савецкія фільмы. І надта ж хочам паглядзець ды паслухаць нашую «Лявоніху». Просім таксама, каб наведалі нас беларускія літаратары з «Белавежы». Словам, хочам, каб да нас у Чыжы заглядалі часцей людзі звонку, а мы таксама дамо свой уклад у тутэйшае культурнае жыццё.

Калі я выязджаў з Чыжоў, у мяне складвалася ўражанне, што сапраўды мясцоваму гуртку БГКТ, які налічвае 56 членаў, пад сілу стаць вядучым гуртком у ваколіцы, дастойным звання гуртка, што дзейнічае ў сядзібе гміны.

*Размову правёў Мікалай Гайдук*

*Фота — В. Бура*

Пачатак на стар. 1

# Людзі стальных дарог

калі заканчваецца працоўны дзень. На дарогах да Чарэмхі, Кузавы, Ставішчаў і іншых навакольных вёсак лічыць іх можна на сотні. Ва ўстановах і прадпрыемствах чыгуначнага вузла Чарэмха працуе звыш 1200 чалавек. Усюды аднатоўваецца добрая, ахвярная іх праца, высокі працоўны ўздым, творчая ініцыятыва ў рэалізацыі накрэсленых планаў. І служба руху і дарожная служба, і вагонная служба, і служба забеспячэння сувязі, і паравознае дэпо, і шпаланасычальня, і іншыя калектывы — паспяхова выконваюць узложаныя на іх заданні. Нягледзячы на тое, што тут кожная ўстанова і кожнае прадпрыемства з'яўляецца самастойным (бо мае сваё аддзельнае кіраўніцтва, сваю партыйную арганізацыю і сваю прафсаюзную раду прадпрыемства), аднак існуе патрэбная гарманійнасць працы, разуменне ўзаемна звязанай дзейнасці.

Каардынатарам гэткай дзейнасці з'яўляецца партыйны камітэт, які ўзначальваецца многагадовым таленавітым партыйным работнікам Іванам Бяляўскім. Вялікая яго заслуга ў развіцці паасобных прадпрыемстваў Чарэмхі! Карыстаецца ён тут вялікім аўтарытэтам. Калі мы зайшлі ў яго кабінет, ён меў тэлефонную размову з Беластокам, дамагаўся, каб людзі, якія вылучаюцца ў працы і грамадскай дзейнасці, 9-га верасня — у Дзень чыгуначніка — былі ўзнагароджаны адзнакай «Заслужаны Беласточчыне». Дзякуючы таварышу Бяляўскаму, дзякуючы многім іншым таварышам, якія душу і сэрца аддаюць для развіцця сваіх прадпрыемстваў і ўстаноў — Чарэмха стала буйным цэнтрам чыгуначнікаў. Тут цяпер ёсць вялікі паравозны і вагонны парк. 40 паравозаў у ведамстве чарэмхаўскага вузла. Абслугоўвае іх 105 машыністаў і 109 памочнікаў і шмат кандуктараў, сярод якіх працуе многа дзяўчат.

У гэтай мясцовасці слабаякасныя землі. Жыхары вёсак гэтай ваколіцы маюць дзе працаваць. Шпаланасычальня дае працу 170 асобам. У нядаўна адбудаваным і добра абсталяваным паравозным дэпо працуе 442 асобы. А будзе тут у будучыні працаваць яшчэ значна больш людзей, таму што другая частка дэпо яшчэ ў будове. І неабходна ў гэтым месцы сказаць аб тым, што чыгуначныя ўлады занядбалі гэту будову. Работы распачатыя на ёй у 1967 годзе. Мінула ўжо пяць год і яшчэ пройдзе шмат часу, таму што ў бягучай пяцігодцы пабудова не будзе закончана. Неяк праз увесь час выпадае яна з дзяржаўных інвестыцый. Але ўжо ёсць запэўненне, што ў наступнай пяцігодцы гэтая інвестыцыя будзе зрэалізавана. У наступнай пяцігодцы будзе таксама пабудаваная чыгуначная станцыя, якая ўпрыгожыць выгляд вялікага чыгуначнага вузла.

Многа ўвагі ўдзяляюць партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі і бытавым праблемам. У перадз'ездаўскай дыскусіі былі абмеркаваны і сфармуліраваны ў форме пастулатаў такія справы як: будова начлежнага памяшкання для кандуктарскіх дружын, будова ясляў, будова спецыяльнага памяшкання для працаўнікоў дарожнай службы і манеўраных дружын. Разважаюцца таксама такія пытанні як: жыллёвае будаўніцтва ў Чарэмсе, патрэбы павышэння адукацыі да сярэдняй многіх працаўнікоў чарэмхаўскага чыгуначнага вузла. 60 важных прапаноў зарэгістравана ў перадз'ездаўскі перыяд. Усе яны ў адпаведным часе будуць выконвацца і вядомыя ўжо тэрміны. Гэта прычыніцца да значнага ўзросту хуткасці чыгуначнага транспарту, да павелічэння правазной і прапускной здольнасці гэтага вузла. Тады ўжо напэўна будуць ліквідаваны такія прымітыўныя абсталяванні, як ручное рэгуліраванне чыгуначных стрэлак і ўстарэўшыя спосабы сігналізацыі.

Нягледзячы на гэтыя і яшчэ іншыя недахопы, чарэмхаўскі чыгуначны вузел працуе добра. Людзі, якія пасрэдна ці непасрэдна прычыняюцца, каб чыгунка выконвала з кожным годам большыя заданні, праяўляюць ахвярнай працай свой патрыятызм, сваю любоў да нашай сацыялістычнай радзімы — Народнай Польшчы.

У сённяшняй публікацыі мы пазнаёмім вас, чытачы, з біяграфіямі некаторых чыгуначнікаў, якія немалую ролю адыгрываюць на чарэмхаўскім вузле.

## Машыніст Уладзімір Прыступюк

Ён першы сакратар партыйнай арганізацыі ў дэпо, член партыйнага камітэта прадпрыемства і член павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў Гайнаўцы. Там увесь час жыве. Бацька яго ў 1941 годзе служыў у Савецкай Арміі ў Сямяцічах і там недзе загінуў ад нямецкай кулі. Нялёгкае было яго дзяцінства. Прышлося яму нават наймацца за пастуха. Пасля вучоба ў гайнаўскай слёсарскай школе, затым праца на пасадзе слёсара ў чарэмхаўскім дэпо. Пазней ён — ужо памочнік машыніста (вядома, закончыўшы адпаведны курс) і затым — машыніст. Водзіць ён пасажырскі дызельны цягнік M42 № 255. Зразумела, што гэта вялікая адказнасць: ад яго, перш за ўсё, залежыць добрая язда пасажыраў і іх жыццё.

Уладзімір Прыступюк улюбёны ў сваю работу, шануе сваю машыну і вельмі задаволены, што ўрэшце перайшоў працаваць з паравога на дызельны паравоз, у якім чысціня і можна ездзіць пад гальштукам.

— Вам як машыністу, што найбольш прыйшлося перажыць падчас сваёй працы? — запытаў я Уладзіміра Прыступюка.

І пачаў ён расказваць аб тым, як 31 кастрычніка 1970 года ўязджаў у Седльцы. Семафор быў адкрыты. У адлегласці не больш, як 70 метраў заўважыў вагоны. Раптоўна загамаваў і схапіў памочніка, каб разам з ім як найхутчэй упасць на падлогу, бо гэта змяншае ўдар. Гэтае раптоўнае гамаванне пашкодзіла машыне, але людзям амаль не. Толькі пяць асоб мелі лёгкія скалечанні цела.

Кожны месяц Уладзімір Прыступюк праязджае сваім дызельным дасканалым паравозам у сярэднім каля 4 тыс. км. Адпраўляе яго да работы і сустракае жонка Ніна, пяцігадовая Еля і дзесяцігадовы Віктар.

## Васіль Раманчук і Ёзік Дубковіч

Яны 1927 года нараджэння. Першы з вёскі Кузава, другі з вёскі Чарэмха. Лёс іх падобны. Разам у 1944 годзе немцы забралі іх у лагер у Галавеску (Бельск Падляшскі). Там прышлося шмат перажыць здзекаў, але неяк удалося застацца жывымі. Пасля вызвалення яны працуюць у дэпо (Раманчук ад 1945, Дубковіч ад 1950 года). Адзін і другі пасля з'яўляюцца памочнікамі машыністаў, а затым і машыністамі. Праехалі на сваіх паравозах каля 500 тысяч кіламетраў. Таварыш Раманчук ад 1967 года працуе дыспазітарам паравозаў. Выконваў і выконвае некалькі адказных грамадскіх функцый. Цяпер з'яўляецца членам партыйнага камітэта і грамадскім суддзёю (лаўнікам) у павятовым судзе ў Бельску Падляшскім.

Таварыш Дубковіч з'яўляецца ўжо 12 год старшынёй рады прафсаюзаў у паравазоўні. Апрача таго таксама выконваў і выконвае шэраг грамадскіх абавязкаў. Цяпер ён і член партыйнага камітэта і член прэзідыума ПРН і ў школе — старшыня бацькоўскага камітэта і член дысцыплінарнай камісіі пры дырэкцыі чыгункі ў Варшаве.

В. Раманчук і Е. Дубковіч неаднойчы былі ўзнагароджаны.



*Злева направа: Ёзік Дубковіч, Іван Бяляўскі і Васіль Раманчук.*

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

# Беларуская літаратура

Аляксандар Барычэўскі

## Перыяд XIX стагоддзя

### Францішак Багушэвіч

#### Частка III

У адваротнасці да Чачота і Марцінкевіча, якія хацелі ўдасканаліць беларускага селяніна маральна, Ф. Багушэвіч імкнуўся ўдасканаліць яго нацыянальна. Праўда, Багушэвіч таксама, як і яго літаратурныя папярэднікі, закранае такія праблемы як: п'янства, лянота, неахайнасць і асуджае гэтыя рысы ў характары селяніна. Услед за Чачотам і Марцінкевічам закранае ён таксама праблему народнай нядолі. У адрозненне, аднак, ад тых пісьменнікаў, якія лічылі, што селянін можа пазбыцца нядолі шляхам самадасканалення і супрацоўніцтва з панамі, Багушэвіч лічыў, што прычына сялянскай нядолі ляжыць па старане паноў і існуючай грамадскай сістэмы. Гэтым тлумачыцца характар фрагменту прадмовы Багушэвіча да зборніка «Смык беларускі», у якім пісьменнік гаворыць: «Здарывалася і мне чытаць і ксёнжачкі, хоць не надта старыя, друкаваныя нават, якогась пана Марцінкевіча, але ўсе як бы смеючыся з нашага брата пісаны». У гэтым сцвярджэнні заключаецца вострае асуджэнне ідэйнага боку творчасці Марцінкевіча. Значыць, Багушэвіч свядома шукаў новай інтэрпрэтацыі сялянскага жыцця, свядома акрэсліваў класавыя прычыны сялянскай нядолі, свядома паказваў шлях нацыянальнага вызвалення беларуса. Творчасць Багушэвіча не з'яўляецца стыхійным працэсам. Гэта працэс перадуманы і запраграміраваны. Пісьменнік не раздзяляе свайго таленту, натхнення і ідэалогіі паміж паноў і сялян. Ён пісьменнік аднаго класа. Класа сялянскага. Так, Багушэвіч — гэта ідэолаг беларускага сялянства, гэта паэт сялянскага стогну і болю. Нацыянальнае і сацыяльнае злілося ў творчасці паэта ў адно рэчышча. Не можа быць сапраўды вольным чалавек, вызвалены эканамічна, але зняволены нацыянальна, таксама як не можа быць вольным чалавек, незалежны нацыянальна, але закабалены эканамічна. Гэтая дыялектычная формула, хаця і не высказаная Багушэвічам, прабіваецца праз усю творчасць паэта.

Любоў да зямлі роднай і сацыяльнай роўнасці акрэсліла характар творчасці Багушэвіча. Нягледзячы на ўсё гэта, у падыходзе Багушэвіча да селяніна выступаюць народніцка-сентыментальныя схільнасці. Сялянскі герой Багушэвіча наогул пасіўны. За яго прамаўляе найчасцей сам аўтар. Ад імя селяніна атакуе паэт паноў, чыноўнікаў, суд, усю грамадскую сістэму. Самастойнае сялянскае абурэнне, пратэст, пастулаты — выступаюць рэдка. Зрэшты, і сам Багушэвіч не меў ясна акрэсленага ідэйнага светапогляду. Быў ён паэтам негацыі. Ведаў чаго не хоча, але не ўмеў акрэсліць спосабаў рэалізацыі сваіх пастулатаў. Быў ён рашучым праціўнікам феадалізму і капіталізму, але не зразумелай яму была ідэя сацыялізму.

Творчасць Багушэвіча прыпала на пераломны перыяд. На вачах пісьменніка ўпала паншчына і нарадзілася новая грамадская сістэма — капіталізм. Так, усеўладнае панаванне капіталізму палохала паэта. Бачыў ён, што жыццё селяніна не палепшылася. На месцы пана і яго выслужнікаў нарадзілася магутная машына царскай бюракратыі. Больш спраўнае, больш аператыўнае і дынамічнае, чым паншчынная сістэма, але не менш антынароднае, чым паншчына. Багушэвіч кіраваў свой гнеў і абурэнне супраць рэштак паншчыны і супраць новай капіталістычнай сістэмы. Творчасць пісьменніка, несумненна, вучыла крытыцызму і нянавісці да сістэмы. Багушэвіч усё жыццё задумоўваўся над парадоксам сістэмы, у якой селянін, тварэц усіх матэрыяльных вартасцей, пазбаўлены права карыстацца вынікамі сваёй працы. У гэтым заключалася галоўная несправядлівасць веку. Супраць яе скіраваў свой гнеў пісьменнік. Паэзія Багушэвіча сумная. У многіх праграмных вершах, асабліва ў «Маёй дудцы» і «Смыку», пісьменнік многа разоў паўтарае думку, што хацеў бы, каб яго паэтычныя інструменты ігралі весела. Аднак жыццё, якое заўсёды дыктуе настроі паэзіі, загадвае яму іграць сумна. Такім чынам паэт ставіць у непасрэдную залежнасць характар сваёй паэзіі ад характару народнага жыцця. Няма сумненняў: Багушэвіч не мае сабе роўных ва ўсёй беларускай літаратуры, і на працягу цэлага XIX стагоддзя, калі гаворым аб адэкватнасці літаратуры ў адносінах да жыцця. Адзінства мастацкага слова з жыццём у выпадку Багушэвіча — поўнае.



 

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## АНАТОЛЬ ЛЯЎШУК

Анатоль Ляўшук з Юшкавага Груда Беластоцкага павету выконвае шмат грамадскіх функцыяў. Ужо дзесяць гадоў ён з'яўляецца солтысам, пяць гадоў выконвае абавязкі старшыні ў мясцовым сельгасгуртку і другі год абавязкі сакратара грамадскага камітэта партыі. Усе гэтыя грамадскія абавязкі не перашкаджаюць яму быць таксама прыкладным гаспадаром.

Анатоль Ляўшук вядзе 15-гектаровую гаспадарку. Каля пяці гектараў зямельных угоддзяў абсявае ён жытам і збірае яго ў сярэднім 80 коп. Ураджі збожжавых культур складаюць у яго ў сярэднім па 22 цэнтнеры з 1 га. Ячмень сыпнуў сёлета 33 цэнтнеры з 1 га. На гэты год Анатоль Ляўшук закантрактаваў 2 гектары жыта і прадаў яго дзяржаве больш 2.000 кілаграмаў. Калі гаварыць аб жывёлагадоўлі, дык Анатоль Ляўшук гадуе перш за ўсё кароў. Цяпер мае іх сем штук, у тым ліку чатыры дойныя, ад якіх малако прадае ў мясцовым пункце скупкі малака.

Пасля меліярацыі аб'екту «Руднік» значна павялічылася колькасць сена з акалічных сенажацяў і Анатоль Ляўшук намераны павялічыць у сябе гадоўлю кароў. З гэтай мэтай пабудаваў ён новыя сельскагаспадарчыя будынкі — абору і клуню. З думкай аб павелічэнні пашы, Анатоль Ляўшук ужо пару гадоў вядзе доследныя палеткі з жытам і на сенажаці.

Варта адзначыць, што працу на гаспадарцы Анатоль Ляўшук стараецца механізаваць. Аблягчае ён яе пры дапамозе «кулковых» і ўласных сельскагаспадарчых машын. Мае ў сябе электрарухавік, млынок на асыпку, крайзэгу, шырокамалотку, касілку, зграбалку і іншыя сельскагаспадарчыя машыны.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкі*



## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

БЫТАВАЯ

ТАМ НА ГО-РЫ, ПО ДО-ЛІ-НАХ ГО-ЛУ-БЫ ЛІ-ТА-ЮТ
ШЧЭЙ РОС-КО-ШЫ НЫ ЗА-ЖЫ-ЛІ, ВЖЭ ЛІ-ТА МЫ-НА-ЮТ

*Там на горы, по долінах голубы літают,*
*Шчэ й роскошы ны зажылі, вжэ літа мынают.*
*Шчэ й роскошы ны зажылі, вжэ літа мынают.*

*— Літа мої молодыі, вырнытэся в госты,*
*Хоть я сама ны богата — хата на помосты.*
*Хоть я сама ны богата — хата на помосты.*

*— Ны вырнэмся, ны вырнэмся, бо ныма до чого:*
*Было змалу шановаты здоровечка свого.*
*Было змалу шановаты здоровечка свого.*

**Ад Внучко Анны, 1904 года нараджэння, вёска Чарэмха, Гайнаўскага павету, запісаў 17 мая 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.**

*(Працяг са стар. 3)*

## Аперацыя „жніво"

Цікава праводзілі час гарцэры застэмпу «Бізоны» з Белавежы. Зрэалізавалі яны ўсе паходы, прапанаваныя гарцэрскай газетай «Свят млодых». «Бізоны» прынялі на сябе апеку над рэдкімі экземплярамі прыроды, фатаграфавалі іх, збіралі розныя даныя — цікаўнасці для гарцэрскага турыстычнага праваднікa (цікавыя людзі, помнікі старадаўнай культуры). Матэрыялы гэтыя будуць выкарыстаны пры арганізацыі ізб народнай памяці.

Застэмп Галі Бадавец з Рагачоў арганізаваў цікавую базу ў лесе за сялом. Тут адбываліся зборы застэмпу, абсуджалі планы дзейнасці. Гарцэркі запрашалі да сябе дзяцей з дзяцінца, існуючага ў школе.

Вось толькі некаторыя прыклады дзейнасці гарцэраў з нялагернага лета. Магчыма, што іх, вясковых дзяцей, чыны не так аж эфектыўныя, але дзякуючы часта толькі ім не загарэўся лес, завезена апошняя фура збожжа перад дажджом. Не цаніць гэтай іх працы немагчыма.

А. К.

## У цісках бюракратыі...

Пачалося ад таго, што сельскагаспадарчы гурток у вёсцы Зверкі, Беластоцкага павету, рашыў пабудаваць для сваёй тэхнікі адпаведную базу. Мерапрыемства ў гаспадарчай дзейнасці гуртка вельмі важнае, бо можна і некаторыя машыны схаваць пад дахам, каб не з'ядала іх іржа, і можна абсталяваць сабе падручную майстэрню, каб ад рукі адрамантаваць трактар ці снопавязалку, і людзям таксама можна схавацца ад дажджу. Коратка гаворачы, прымусіла іх да гэтага жыццёвая неабходнасць, а становішча вышэйшых улад, якія згадзіліся фінансаваць будову (амаль паўмільёна злотых), яшчэ болей іх да гэтага заахвоціла.

Будаваць, на жаль — пакуль што — у паветры немагчыма. Для пабудовы патрэбна пляцоўка. Дзеячы сельгасгуртка ў Зверках падказалі сваім начальнікам з павятовага саюза сельскагаспадарчых гурткоў (які ў далейшым называць будзем ПЗКР-ам), што ў іх за вёскай ёсць адпаведная пляцоўка, якая асталася пасля Сцяпана Бакуновіча, што даўно ўжо развітаўся з гэтым светам, а раней яшчэ дзяцей сваіх выправіў у Беласток. ПЗКР пачуўся «не ў сілах» задаволіць просьбу сваіх падапечных і звярнуўся да праўлення ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, (якога ў далейшым называць будзем «ВЗКР-ам»). ВЗКР «справу разгледзеў» і вырашыў, што «ён некампетэнтны» яе аформіць, дык 9 студзеня 1967 года накіраваў яе ў аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва Прэзідыума Павятовай рады нарадовай у Беластоку разам з просьбай, каб той аформіў усё, што трэба для пазбаўлення правоў уласнасці на ўказаную гуртком будаўляную дзялянку наследнікаў Сцяпана Бакуновіча.

«Вышэй названая дзялянка пасля адчужэння (выўлашчэння), — інфармаваў ВЗКР, — будзе куплена сельскагаспадарчым гуртком у Зверках, Беластоцкага павету, якое прызначыць яе пад пабудову тэхнічна-гаспадарчага заплечча на сельскагаспадарчыя машыны і прылады...»

Падпісаў тадышні старшыня ВЗКР Язэп Родзік.

ВЗКР памяшчаецца на вуліцы Марыі Кюры-Складоўскай у Беластоку, аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва Прэзідыума ПРН — на вуліцы Сланімскай — таксама ў Беластоку. Я не ведаю, як доўга вандравала пісулька з адной установы ў другую, аднак ведаю, што аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва адгукнуўся на просьбу ВЗКР 22 мая 1968 года, значыць пасля 17-ці месяцаў і 13-ці дзён, ды адгукнуўся ў тым сэнсе, што ён не ў сілах аформіць гэтай справы і просіць дапамогі праўлення унутраных спраў прэзідыума ВРН у Беластоку, а пісьмо, у якім гэтую просьбу выкладае, рэдагавана так «красамоўна», што варта пазнаёміцца з яго арыгіналам.

„(...Uprzejmie prosi, o wszczęście postępowania wywłaszczeniowego na terenie wsi Zwierki Gromadzka Rada Narodowa Zabłudów powiatu białostockiego.

Działka Nr 261/4 o pow. 0,416 ha jest w posiadaniu Obywatela Aleksandra Bakunowicza zam. w Białymstoku, ul. Krańcowa 22. Na rozprawie wywłaszczeniowej, która odbyła się w dniu 9 kwietnia 1968 roku.

Na rozprawie wywłaszczeniowej w/w Obywatel nie zgodził się o wywłaszczenie lub dobrowolne sprzedanie gruntu ponieważ zasiane na pow. 0,416 ha żyto, lecz żądał zamiennika PFZ.

Tut. Wydział Rolnictwa i Leśnictwa uprzejmie informuje, iż na terenie wsi Zwierki znajduje się 25 ha PFZ, z czego dokonano zamiennika o pow. 0,375 ha łąki IV kl. w tym 0,133 lasu (samosiew), na którą Obywatel Bakunowicz wyraził zgodę.

Uprzejmie prosi się o zakończenie wszczęcia postępowania wywłaszczeniowego".

Падпісаў гэтую не вельмі зразумелую пісульку тадышні кіраўнік інжынер Ян Шафаловіч.

І так кружылі «ветлівыя просьбы» і «рашучыя напамінанні» па Беластоку. Назбіралася гэтага поўная папка. Пакінем іх у спакоі, бо чытанне гэтай канцылярышчыны, апрача сонлівасці і злосці, не дае аніякай карысці.

З горам з бядою праўленне сельскагаспадарчага гуртка ў Зверках восенню 1970 года дачакалася ўрэшце ўводзін у першыя аб'екты сваей базы, якую для гуртка будавала вытворча-паслуговая спулдзельня (СУВ) з Нарвы.

Я не ведаю, як шчыра ў Зверках «абліваліі» «кветку» на базе, бо мяне пры гэтым не было, але ведаю, што радасць іх трывала зусім нядоўга, бо пасля года эксплуатацыі сваёй базы яны пераканаліся, што не маюць да яе належнага даезду. Вясковая дарожка між двума платамі, між прыватным полем, а глыбокім ровам, дзесяткі год паспяхова служыла конікам і вазам, але трактарам на ёй размінуцца або ўмясціцца трактару з снопавязалкай ці трактарным чатырохметровым сеўнікам — зусім немагчыма.

Раней неяк ніхто не падумаў, што машынатрактарнай базе гуртка неабходна шырокая, прынамсі жвіраваная дарога. Не прышло гэта ў галаву ні тым усім чыноўнікам з ПЗКР-у і ВЗКР-у, з ПРН-у і ВРН-у, якія займаліся «справай пляцоўкі», не падумаў аб гэтым той, хто рабіў план яе забудовы.

Дык нічога тады дзіўнага, што ў кастрычніку мінулага года праўленне сельгасгуртка ў Зверках звярнулася да павятовага бюро геадэзіі ў Беластоку з просьбай аб пашырэнні дарогі. «Павятовая геадэзія», набраўшы вады ў рот, рашыла справу прамаўчаць. «А мо якраз гэтыя Зверкі не захочуць далей яе «папіхаць», дык усё пойдзе «ад акта», — меркавалі відавочна чыноўнікі. Зверкі (відаць маюць натуру звярыную) не даравалі. Адчакаўшы роўна 5 месяцаў і не дачакаўшыся аніякага выніку, 10 сакавіка 1972 года рашылі адклікацца да аўтарытэту прэзідыума ВРН.

Нядаўна я зноў быў у Зверках. Дыспетчар тамашнята «кулка» Генрык Аляксейчук гаварыў мне, што ўжо «водгук» ёсць. Справа накіравана да эксперта для выцэнкі вартасці гэтай палоскі зямлі, якая адыдзе пад пашыраную дарогу.

Такім чынам млын бюракратыі зноў ад пачатку распачаў малоць сваю муку. Зноў неабходна паўтараць дакладна ўсё тое, што тварылася папярэднім разам, калі ваявалі за будаўляную пляцоўку, бо пашырэнне дарогі мае наступіць за кошт гэтага ж самага наследніка Сцяпана Бакуновіча, яго сына Аляксандра. Амаль год часу «справа дарогі» ўжо цягнецца, а колькі яшчэ?

*Віктар Рудчык*

## НАБЛІЖАЕЦЦА ЮБІЛЕЙ

Ужо набліжаецца 25 год, як гмінныя спулдзельні служаць гаспадару і вёсцы ў Сакольскім павеце. Праўда, ПЗГС-у споўніцца чвэрць стагоддзя ў наступным годзе, але паколькі ГС-ы паўсталі раней, адзначанне юбілея пачнецца восенню гэтага года.

Юбілей супадае з павялічанымі заданнямі, якія пастаўлены перад вясковай спулдзельчасцю ў напрамку лепшага арганізавання паслуг для сельскай гаспадаркі. Урэшце, 25-годдзе будзе адзначацца напярэдадні VI Кангрэса ЦРС (Цэнтралі ральнічых спулдзельняў), які мае прыняць новую праграму дзейнасці спулдзельняў.

Не чакаючы на ўказанні з верху, гмінныя спулдзельні і ПЗГС у Саколцы апрацавалі даволі шырокую праграму юбілейных святкаванняў. Фактычна гэта ёсць праграма ўдасканальвання працы.

Сакольскія спулдзельні будуць павялічваць эфектыўнасць у галіне тавараабароту таварамі, патрэбнымі сельскагаспадарчай прадукцыі. У першую чаргу вясковы гандаль Сакольшчыны мае забяспечваць паасобных гаспадароў у гэтыя тавары з непасрэднай іх пастаўкай да сяліб гаспадароў. Будзе таксама пашырана продаж рознага тыпу тавараў на крэдыт за пасрэдніцтвам вясковых прадстаўнікоў ГС. Эфектыўнасці тавараабароту будзе спрыяць значнае пашырэнне скупкі сельскагаспадарчых прадуктаў непасрэдна з сяліб гаспадароў. Зразумела, разам з гэтым будзе палепшвацца забеспячэнне крамаў таварамі і павышацца культура абслугоўвання.

Работнікі сакольскіх спулдзельняў вітаюць юбілей і VI Кангрэс ЦРС дадатковай прадукцыяй. Заводы газіраванай вады ў Саколцы і Крынках, пякарня ў Янове і мяшальня корму ў Саколцы дадуць да канца гэтага года дадатковую прадукцыю, якой вартасць ацэньваецца на 1.487 тысяч зл. Гэтыя амаль 1,5 мільёна зл., гэта ўклад сакольскіх спульдзельцаў у банк «20 мільярдаў зл.».

Дваццаціпяцігадовая дзейнасць спулдзельні ў павеце будзе шырока папулярызавацца. У бліжэйшым часе будзе распісаны конкурс на найлепшую фатаграфію аб дзейнасці ГС-аў і ПЗГС-аў за перыяд 25 год. Са здымкаў, якія паступяць на конкурс, будзе апрацавана хроніка ПЗГС.

У клубах гаспадара і цэнтрах «Сучаснай гаспадыні» паявяцца насценгазеты, прысвечаныя 25-гадовым дасягненням ГС-аў і ПЗГС. Будзе арганізавана згадуй-згадуля для працаўнікоў і дзеячоў на тэму дзейнасці спулдзельчасці ў павеце. Ва ўсіх ГС-ах да канца г.г. адбудуцца гандлёвыя фэсты, а ў кожным «клубе гаспадара» і цэнтры «Сучасная гаспадыня» восенню і зімою будуць арганізаваны выстаўкі прыладаў, якімі павінен быць забяспечаны кожны сялянскі дом. Прадугледжваецца, што сакольскія спулдзельні будуць арганізаваць выстаўкі на тое, каб з аднаго боку разрэкламаваць тавары, а з другога — каб навучыць, як карыстацца гэтымі прыкладамі і паказаць дзе і да чаго іх прымяняецца. Можа гэта і смешна, але як жа часта мноства сучасных прыладаў так апярэджвае нас, што мы не ведаем не толькі як імі карыстацца, але і да чаго яны служаць. У гэтай дзялянцы сакольская ініцыятыва выставак заслугоўвае на ўвагу.

Каб паправіць умову працы калектываў работнікаў спулдзельчасці, павысіць культуру гандлю і палепшыць абслугоўванне гаспадароў, прадбачваецца яшчэ ў бягучым годзе здаць у карыстанне наступныя інвестыцыі: базы ГС у Саколцы, Кузніцы і Карыціне, дзве крамы ў Шудзялаве і Кузніцы, пункт скупкі жыўца ў Кузніцы, варштату паслуг і бытавога будынку ЗУРБ.

Кіраўніцтва ПЗГС хоча яшчэ і ў гэтым годзе падрыхтаваць дакументацыю на пабудову запланаваных на наступныя гады інвестыцый: баз у Янове і Карыціне, сталовак і рэстаранаў у Сідры, Крынках, Янове і Карыціне, цэнтраў «Сучасная гаспадыня» ў Кузніцы і Крынках, новых крамаў у Старой Разадранцы, Сідры, Янове, Кузніцы і Карыціне і г.д.

Як відаць з вышэй сказанага, праграма святкавання юбілею сельскагаспадарчай спулдзельчасці на Сакольшчыне — гэта перад усім праграма лепшай працы, праграма яе ўдасканальвання.

*А. К.*



*— Каторы твой бацька?*
*— Гэтыя першыя тры паны з левага боку.*

### БАЦЬКАВЫ СЫНОЧКІ

Захварэў бацька, прыкавала яго хвароба да ложка. Вось ён і просіць старэйшага сына:

— Васілёк, устань, падай мне вады!

А Васілёк разлёгся сабе на печы, быццам не чуе, а потым кажа:

— Ляжыце сабе, тата, і не хвалюйцеся. Навошта вам вада?

А тут адазваўся другі сынок, Андрэй, што ляжаў на палацях:

— Татка, чаго вы просіце гэтага гультая? Лепш вы самі ўстаньце, напіцеся ды заадно і мне падайце.

### АБЖОРА

У шахцёрскім гарадку праводзіліся спаборніцтвы па ежы. Адзін з удзельнікаў паказаў на іх самыя лепшыя вынікі. За адведзены час ён з'еў вялікі біфштэкс, мясны пірог і торт. Журы прызнала яго пераможцам.

Пакідаючы сцэну, на якой праводзіліся спаборніцтвы, ён папрасіў сваіх балельшчыкаў:

— Дарагія, не тавaрыце толькі аб гэтым маёй жонцы, бо я магу застацца... без абеду.

# НІЎКА



*— Гэта вельмі прыемна быць маладымі разведзенымі.*

### ДАПАМОГА

Адна маладзіца запрасіла свайго суседа змалаціць капу жыта. Спачатку дала суседу добра пад'есці ды і чарку выпіць, а потым павяла ў гумно.

— Вось капа жыта. Вы добра пад'елі, выпілі чарку, а цяпер я лічу, што ўсё гэта змалочана.

— Я таксама лічу, што змалочана, — адказаў сусед і, узяўшы цэп пад руку, пайшоў дамоў.

### ЗАМОВА АБІБОКА АД ТУРБОТ

Сонцу яснаму памалюся,
Зорам, месяцу пакланюся,
Як нябожчыку не ўставаць,
Віна кубкам не выпіваць,
Так мне розных турбот не
знаць.
Вы, сарокі-белабокі,
Хапайце мае турботы —
Світальныя
І змяркальныя,
Паўдзённыя
І паўночныя,
Нясіце па цёмных лясах,
Па густых кустах,
Каб да старасці год
Мне дажыць без турбот —
Толькі рот разяўляць —
Есці, піць ды гуляць.
Амінь!

*Ніл Гілевіч*

### ПРА ДОБРЫЯ ЎЧЫНКІ

Мужчына быў вельмі задаволены сабой, бо ўчора зрабіў тры добрыя ўчынкі. Спаткаўшы на вуліцы бедную жанчыну, якая, трымаючы на руках хворае дзіця, плакала, ён спытаў, што з ёю здарылася. Жанчына адказала: яна плача таму, што яе дзіця памірае ад голаду. Ён даў ёй дзесяць долараў і пакінуў свой адрас, каб яна вярнула рэшту, калі купіць маламу харч.

— Ну, гэта адзін учынак. А якія ж яшчэ два? — пытае яго знаёмы.

— Няўжо не разумееш, што ў гэтым адным усе тры. Па-першае, я супакоіў жанчыну, каб яна не плакала, па-другое, я даў грошы, каб яна накарміла дзіця. А па-трэцяе, я пазбавіўся гэтых дзесяці фальшывых долараў, якія трымаў у сябе больш, як год.



*Выбачайце, гэта страшна. Ваш сабака з'еў маю сабаку.*



*— Трэба быць вельмі маладым, каб гэта намаляваць, і вельмі старым, каб гэта зразумець.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ясі Савонь і Марысі Вайцеховіч з Сакольшчыны змяшчаем песню:

## NOCAMI I DNIAMI

**Słowa: Kazimierz Winkler**
**Muzyka: Władysław Szpilman**

1.

Nocami i dniami
ta miłość robi, co chce z nami
i jak we śnie
marionetki dwie
łącza losy swe.
Drogami, polami
krążymy coraz mocniej zakochani
księżyca blask,
już nie pierwszy raz
odnajduje nas,
la, la, la...

Tyle lat czekałam już
na prawdziwą miłość,
a gdy przyszła, to się boję,
że mi się śniła.
O nim opowiada las,
śpiewa ptak dla niego,
każde słowo, wszystkie myśli
do miłego biegną.

2.

Nocami i dniami
ta miłość robi, co chce z nami
i jak we śnie
marionetki dwie
łącza losy swe.
Latami, latami
uczymy się miłości swej na pamięć,
a cały świat,
rzeki, ptaki, wiatr
podpowiada nam,
la, la, la...

# КУРЁЗЫ

### ШТУЧНЫ ЧАЛАВЕК

Фантастыка стала рэальнасцю ў адной з лабараторый Каліфорніі, дзе быў створаны штучны чалавек ростам у 6 футаў 2 цалі.

„Сім-І" — першы з серыі сімулятараў. Ён прызначаны быць «пацыентам» для студэнтаў-медыкаў. Яго стваральнікі сцвярджаюць, што ўбачаць свет яшчэ больш складаныя „Сімы", якія скароцяць на восем-шэсць гадоў час, неабходны для набыцця адукацыі.

«Сім-І» — мужчына. Ён можа дыхаць, заплюшчваць і расплюшчваць вочы, разяўляць рот, у якім ёсць усе 32 зубы, варушыць языком і падаваць гукі. Лекі ўздзейнічаюць на яго, як і на чалавека.

„Сім-І" і электронная машына, якая кіруе яго рэакцыямі, каштуюць больш за 272000 долараў.

### ГІГАНТ ЭРМІТАЖА

Пётр Першы, сам волат сажнёвага росту (214 см), любіў асілкаў. Аднак дзе б ён ні быў, звычайна сустракаліся людзі на дзве галавы ніжэйшыя за яго.

Аднойчы, калі рускі цар працаваў інкогніта ў Галандыі на пабудове караблёў, ён сустрэў гіганта на галаву вышэйшага за сябе. Гэты чалавек, па прозвішчу Буржуа, быў не толькі рослы (234 см), але ўсебакова развіты. Пётр Першы пазнаёміўся з ім і купіў яго за трыццаць тысяч гульдэнаў. Згодна ўмове, Буржуа павінен быў жыць у Расіі, а пасля смерці шкілет яго належала змясціць у музеі. Умова была выканана, і цяпер наведвальнікі ленінградскага Эрмітажа бачаць там шкілет гіганта з велізарнымі рукамі.

### ГУМАВАЯ ГАЗЕТА

У Парыжы нейкі Арэльен Шол пачаў выдаваць газету, якая друкуецца на гумавых аркушах. Яна прызначаецца, каб чытаць у ванне.

## СУЧАСНЫ РАЗВОД

Спяваў гэты чалавек цудоўна, у яго вусная словы станавіліся сапраўдным мёдам і бальзамам! Акрамя таго, у яго былі чароўныя вочы — пужлівыя і добрыя, такія журботныя і такія чалавечыя! За іх я якраз і любіў яго. Меў ён мяккі, аксамітны тэнар, і рэдакцыя часта атрымлівала лісты: калі ласка, няхай нам спявае такі вось і такі...

Дзяўчынкі, дзяўчаты і жанчыны былі ўлюблёны ў маркотны, аксамітны голас радыёспевака, які часцей за ўсё спяваў сумныя песні, і пісалі яму лісты, скардзіліся на свой лёс, спавядаліся і прызнаваліся, што кахаюць яго.

У спевака былі вузкія плечы і заўсёды балячкі на твары ды які яшчэ быў жахлівы нос — о божа! — вялізны і нібы пабіты на купіны!

Жанчыны ж яго любілі, і дзяўчынкі-гімназісткі, і дзяўчаты, усе яны любілі яго — па радыё.

Шмат атрымліваў ён лістоў...

Але адзін атрыманы ім з правінцыі ліст — сумны і поўны шчырага запалу — быў першым лістом, на які ён адказаў прыгожа, баязліва і без асаблівых надзей...

Між тым наступны ліст, дасланы дзяўчынай, быў авіязаказным і пачынаўся словамі: «Любы мой». Потым пачалася ўзаемная бамбардзіроўка заказнымі лістамі. Паштальёны з ног збіваліся..., а каханне, што ўзнікла пры садзенні радыё, вырастала з дапамогай пошты да фантастычных вышынь.

Па пошце прыбыла яе метрыка і даведка пра тое, што яна ніколі не была замужам, а ён знайшоў сведак для загсу... У дзень шлюбу яна павінна была прыехаць цягніком, і ён тэлеграфаваў ёй: ты пазнаеш мяне па букеце белай гваздзікі. На вакзальным пероне ён, дрыжучы ад хвалявання, заглядваў у кожнае акно цягніка, які прыбыў з правінцыі. Яна выбегла з апошняга вагона і кінулася ў яго абдымкі, а потым з абдымкаў паглядзела на яго падазрона і запытала:

— Дык гэта вы?!

— Гэта я, дарагая! Я шчаслівы! — ён не мог вымавіць нічога іншага...

Пасля шлюбу яна сказала:

— Ты ў маім уяўленні быў зусім не такім!

Так пачаўся сучасны, здзейснены пры дапамозе радыё і пошты, шлюб. Ён, як і раней, спяваў сумныя песні сваім аксамітным голасам.

А яна ў яго часам пыталася:

— Доўга ты яшчэ будзеш плакаць па радыё?

— Калі ты мяне не любіш, — злаваўся ён, — тады нам, можа быць, лепш за ўсё развесціся!

— Ах, ты гэтага хацеў бы! Лёгка ж ты думаеш вырашыць гэтае пытанне! — смяюся, адказвала яму жонка. — Не-е, так у нас не атрымаецца!.. Славіў дзяўчыну на свой плаксівы голас, а цяпер разводзіцца ўздумаў, хочаш, каб я сораму не абабралася! — Яна была з тых жанчын, якія не схільны лёгка пагаджацца з лёсам, яна задумала помсціць.

І аднойчы яна сказала мужу:

— Чуеш ты, спявак кандытарскі, я знайшла сабе другога, лепшага за цябе!

Тут муж не сцярпеў і заплакаў:

— Ну навошта ты мяне мучыш?! Дай мне тады развод і рабі што хочаш, калі ты мяне не любіш.

— Не дам разводу! — перапыняла яна яго. — Я другога кахаю і бутэрброды яму гатую, калі ён ідзе ў інстытут, а ты цярпі. — Так было штодзень.

— Я табе здрадзіла, — казала яму жонка, — а на судзе не прызнаюся пра гэта! Скажу, што ты невыносны, скажу, што табе дзяўчаты пішуць лісты, што ты з мяне здзекваешся!

Муж падаў на развод.

Яна на судзе плакала і хапала яго за руку:

— Любы мой!

А калі яны выйшлі з залы суда, яна сказала яму:

— Во табе! Будзеш ведаць: закон ёсць закон!

— Я табе здраджваю, здраджваю... Насацік, раганосец! А на судзе не сазнаюся, што так раблю! Я цябе мучаю і мучыць буду, радыёспявак няшчасны. Фі, кандытар вакальны. З такім носам асмеліўся лавіць дзяўчат на свой голас! Як быццам голас — гэта ўсё!

Аднойчы ён прынёс з радыё дамоў магнетафон. І неўзабаве зноў падаў на развод. Узяў адваката і растлумачыў сваю патаемную задуму.

А на судзе яна плакала:

— Шаноўны суд, мой муж раўнівы. Хоць ён з мяне і здзекваецца — я яго люблю. Яму вунь дзяўчаты лісты пішуць, а жонцы ўсё гэта трэба цярпець.

Тады ўзяў слова адвакат:

— Таварыш суддзя, дазвольце ўзнавіць адну жывую размову між гэтымі супругамі!

Суддзя быў крыху несучасны і здзіўлена запытаў:

— Што гэта значыць «жывая размова»? Якую жывую размову?

Адвакат паставіў на стол да суддзі магнетафон і растлумачыў, што гэта — такое вось і такое прыстасаванне, сучасны сродак... І магнетафонная стужка пачала пісклявым, злаславым голасам жонкі: «Я табе здраджваю, здраджваю, і нічога ты мне не зробіш! На судзе я не сазнаюся, суддзі — дурні... здраджваю я табе! Ён лепшы за цябе..., я і бутэрброды яму гатую, калі ён ідзе ў інстытут. Я кахаю яго!»

Карацей кажучы, шлюб быў скасаваны.

*Вася Попавіч*



*Значыць дамовіліся: ніжэй пояснiцы не біць.*

# СМЯЁМСЯ З НАМІ



*«Замочваючы» павышэнне на службе, не падмачы сваю рэпутацыю.*